# Ці патрэбны

*Месяц май, як вядома, у нашым Касцёле прысвечаны Найсвяцейшай Панне Марыі. У маі мы праслаўляем Яе добрае Найсвяцейшае Сэрца, якое моцна любіць сваіх дзяцей, гэта значыць, усіх нас. А ў чэрвені мы молімся да Найсвяцейшага Сэрца Яе Сына, Езуса Хрыста. Езус так моцна палюбіў усіх нас, што дзеля нас не пабаяўся прыняць страшную смерць на крыжы.*

*На абразах мы бачым Езуса і Марыю з выявамі іх сэрцаў. З гэтых абразоў нібы прамяніцца на нас вялікая любоў. А мы? Што мы даем Ім узамен? Такія пытанні аднойчы задала дзецям сястра Марта, і вось што яна пачула ад іх.*

– Малітву! – гукнула Аленка. – Шмат-шмат малітваў!

Сястра пахваліла дзяўчынку і запытала, як жа яна іх назбірае – шмат малітваў? Аленка на хвіліну задумалася і яшчэ гучней усклікнула:

– Ружанец! У ружанцы іх шмат!

– Вельмі прыгожы падарунак! – згадзілася сястра Марта.



– А я... а мы з Ганкай збіраем для Маці Божай і Езуса кветкі, – сказала Кася. – Нас мама пасылае па кветкі.

– Мы потым упрыгожваем алтарык з абразом і свечкамі, – падтрымала сваю меншую сястру Ганка.

– Ну і дзе тут вашы кветкі? – чмыхнуў Ромка: – Май ужо на носе, а кветкі дзе? Ну, дзе?

Кася зморшчылася і гатовая была ўжо заплакаць, але яе сястра так лёгка не здалася:

– А лотаць ужо квітнее – на сажалцы шмат! І да мая яшчэ цэлых тры дні. Калі будзе шмат сонца – дзьмухаўцоў будзе-е... мора! А потым і канваліі, і разбітыя сэрцы заквітнеюць!..

– ...і півоні падаспеюць, – падтрымала сястра Марта. – Не бядуй, Ромка, кветак хопіць. Абы было жаданне іх збіраць.

# падарунак..?

– А вы, Янка, Марк і Данік, якія падарункі зробіце? – запытала сястра Марта ў трох братоў.

Марк як старэйшы адказаў за ўсіх:

– Мама сказала, што мы будзем маляваць, а потым зробім у нашай кватэры цэлую выставу!

– Каму што, а ім малюнкі, – пакпіў Уладзік.

Усе ведалі, што браты вельмі любяць маляваць. Іх малюнкі неяк нават былі ў «Маленькім рыцары Беззаганнай».

– А табе шкада? Шкада, так? – закрычаў самы меншы Данік, але сястра Марта суцішыла дзяцей:

– Запрасіце мяне потым на выставу, хлопцы! А можа мы ўсе разам сходзім? – запытала яна ў дзяцей, і тыя, вядома ж, згадзіліся.

– А я вось думаю, – сказаў ціхмяны заўсёды Алесь, – а ці патрэбныя Езусу нашы падарункі? Ягонай Маці то можа і патрэбныя – Яна ўсё ж жанчына... А Езусу? Ды Ён можа сам зрабіць сабе найлепшы падарунак! Такі, які нам і не сніласяя...

Дзеці прыціхлі, задумаліся. Сястра Марта ўсміхалася, пачакала крыху, а потым прапанавала:

– Няхай гэта будзе для вас хатнім заданнем. Падумайце, ці патрэбныя нашы падарункі Езусу і Яго Маці...

А вы, нашы чытачы, што думаеце пра гэта? Напішыце нам. Найбольш цікавыя адказы мы надрукуем у часопісе. І за цікавыя лісты, да таго ж, можна зарабіць яшчэ 7 балаў. Гэта для тых, хто любіць адгадваць нашы загадкі.

7

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (72)/2016 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 000 экз. Заказ № 3621.
Падпісана да друку 21.06.2016 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/116 ад 27.03.2014 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Не трэба



## Урокі айца Віталія

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

VI
Не забівай

Надзейка з захапленнем глядзела на сваю сяброўку Зосю. Што праўда, захаплялася яна не самой Зосяй, а яе сукенкай — новай, блакітнай, з прыгожым бантам.

Вось дык прыгажосць! Я таксама хачу такую! — падумала Надзейка. — Ох, як бы на мяне тады ўсе глядзелі! Якая б я была ў ёй прыгожая! Толькі дзе мне такую ўзяць? Мама з татам мне ў гэтым месяцы ўжо нічога не купяць, бо я выпрасіла ў іх новы ровар...

Надзейцы зрабілася сумна і зусім-зусім непамысна. Сукенка была вельмі прыгожая, але ж такая недасягальная!..

А можа, папрасіць Зосю, каб яна мне дала панасіць гэтую сукенку? — разважала дзяўчынка. — А калі яна не згодзіцца? Але хіба яна мае права не згадзіцца?! Яна ж мая сяброўка! А калі ўсё ж не згодзіцца? О, тады яна мне больш не сяброўка! Тады яна атрымае ад мяне! Я ёй хуценька гэты бант адрэжу ад сукенкі! Вось тады паглядзім, якая яна будзе прагожая...

Такія думкі лезлі ў Надзейчыну галаву, віравалі ў ёй, адбіралі спакой аж да таго часу, пакуль Надзейка не



# нам чужога

спахапілася, згадаўшы, што яна так вось чамусьці пачала думаць пра Зосю — сваю лепшую сяброўку! Дома Надзейка падзялілася сваімі непрыемнымі думкамі з мамай. Ёй ужо не хацелася той прыгожай сукенкі! Ёй проста было сорамна за свае нядобрыя думкі. Мама пахваліла Надзейку і сказала:

— Дарагая мая дачушка: злыя ўчынкі заўсёды пачынаюцца ад злых думак і жаданняў. Таму ты правільна зрабіла, што адагнала кепскія думкі раней, чым яныператварыліся ва ўчынкі. А прыгожую сукенку мы табе абавязкова купім. І яна зусім не мусіць быць гэткая ж, як у Зосі, праўда ж?

Надзейка радасна засмяялася і абняла маму. Як жа гэта добра, калі цябе разумеюць!

*Айцец Віталій Даніловіч,*
*марыянін.*

*Сябры! Разам з пачаткам летніх канікулаў айцец Віталій Даніловіч завяршыў свае ўрокі пра Божыя запаведзі. Але ўвосень ён збіраецца прадоўжыць гаворку з намі. А пакуль — адпачывайма і набіраемся сілаў!*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

X
Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму

IX
Не пажадай жонкі бліжняга твайго

VIII
Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго

VI
Не чужалож

VII
Не крадзі






# Дзяліцца любоўю

Што рабіць, калі табе самому кепска? Не таму кепска, што ў цябе дрэнны настрой, што за вакном дождж, град альбо снежная завіруха. А калі кепска, бо табе чамусьці не хапае любові іншых людзей — татавай, мамінай, любові сястры альбо брата, цёці альбо дзядзі? Калі дарослыя займаюцца сваімі справамі, а да цябе ім чамусьці няма ніякай справы?

Хтосьці скажа, што так не бывае. Не, сябры, на жаль, бывае. І гэта добра зведаў на сабе, бадай што, кожны выхаванец Дзіцячага дома, нягледзячы на тое, з якіх прычынаў ён апынуўся ў тым доме. Так бывае. І што тады рабіць? Злавацца на ўвесь свет? Зачыніцца ад яго? Надзьмуцца, нібы той шэры балонік? І трымаць у сабе свае крыўды? Альбо пры выпадку выкідваць іх на тых, хто нічога падобнага не ведае?

Выхаванцы друйскага Дзіцячага дома з дапамогай сясцёр эўхарыстак Ірэны і Наталлі жывуць інакш. Яны дапамагаюць тым, каму таксама нясоладка жывецца. Напрыклад, тым людзям, якія знаходзяцца ў доме для адзінокіх састарэлых. На вялікія святы, напрыклад, яны прыходзяць да іх з падарункамі.












Тыя падарункі збіраюць зазвычай парафіяне. А тое-сёе дзеці і сваімі рукамі прыгатуюць пад кіраўніцтвам сясцёр Наталлі і Ірэны, бо самастойна яны пакуль што не здолеюць напячы такога смачнага пячэння. Пробашч парафіі Сяргей Сурыновіч распавядаў неяк, як радавалася ягонае сэрца, калі дзеці вясёлай грамадою выпраўляліся да адзінокіх людзей калядаваць!..

А колькі радасці было ўсім, калі тая ж грамада завітала на свята міласэрнасці з шыкоўнымі падарункамі да тых, каму ўжо ніхто не дорыць нават самых сціплых падарункаў! Падарункі назбіралі парафіяне. Дарэчы, пра шчодрасць друйскіх парафіянаў: падарункаў тады назбіралі столькі, што нават падзяліліся з арганізацыяй, якая таксама дзеліцца з іншымі любоўю, — з віцебскім «Карытасам».

Тады ж дзеці сваімі рукамі зрабілі і прыгожа падпісалі паштоўкі для вязняў адной з калоній. Не сумняваюся, што радасна было атрымаць такія шыкоўныя віншаванні.

А яшчэ малодшыя друйскія парафіяне вельмі любяць спяваць, граць на розных музычных інструментах. Яны і ў касцёле прыгожа робяць гэта, і там, дзе іх песні прынясуць некалькі радасных хвілінаў.

Дык што ж рабіць, калі табе самому не надта соладка жывецца? Дзьмуцца на ўсіх? Крыўдзіцца? Злавацца? А можа, рабіць так, як гэтыя дзеці? Ісці да іншых і несці ім радасць! Ісці да іх і дзяліцца любоўю! Тады і самім таксама робіцца радасна.

*Ірына Жарнасек*





# Прыгоды Даніка і Марыйкі

Цудоўным летнім днём Данік і Марыйка паехалі разам з татам і мамай у падарожжа. Яны вельмі любяць ездзіць са сваімі бацькамі. Нават калі не ведаюць, куды едуць. Галоўнае, што разам. Данік, як і ўсе дзеці ў гэтым ўзросце, хоча ўсё дакладна ведаць. Што, дзе, калі, як і чаму? На гэты раз усё было дакладна гэтаксама. Данік засыпаў тату з мамай пытаннямі. Тыя нават не паспявалі адказваць на іх, як сыпаліся новыя. Марыйка не ўмешваецца зазвычай у іх гаворку — няхай сабе нагаворацца. Так сабе і ехалі брат з сястрой, пакуль не заснулі. Дый не дзіва! Дарога сама нібы спявае калыханку.

Прачнуліся яны, калі машына спынілася. Дзеці выбеглі з яе, агледзеліся. Навокал — ні душы. Але затое шмат дрэваў, кустоў, кветак. Словам, раздолле! А яшчэ — сад, поўны яблыкаў! Сад, як патлумачыў тата, цяпер нікому не



належаў: ягоныя гаспадары даўно выехалі адсюль, а дрэвы засталіся. І, што самае важнае, на іх было шмат-шмат яблыкаў — духмяных, сакаўных!

— Іх можна збіраць? — запыталі дзеці.

Тата падумаў і адказаў:

— Думаю, можна. Напэўна, колішнім гаспадарам гэтага саду нават радасна было б даведацца, што хтосьці паласаваўся пладамі тых дрэваў, якія яны калісьці саджалі і даглядалі.

Добра, што знайшоўся пакет. Дзеці назбіралі ў яго яблыкаў. Данік, як сапраўдны мужчына, панёс яго да машыны, але тут пакет той па-здрадніцку выслізнуў з яго рук. Некаторыя могуць у такія хвіліны нават заплакаць. Але Данік не з гэткіх. Ён настойліва пачаў збіраць яблыкі, а Марыйка старанна дапамагала яму. На падмогу падаспела і мама. А калі ўсе разам робяць адну справу — гэта заўсёды надзейна. А што рабіў тата ў гэты час? — магчыма, запытае хтосьці. Як вы здагадваецеся, ён фатаграфаваў сваю сям'ю. І гэта таксама вельмі важная праца, бо некалі ўжо дарослыя Данік з Марыйкай з радасцю будуць глядзець на гэтыя здымкі, і ў іх памяці, магчыма, ажыве той даўні ўжо дзень — сонечны, цёплы, радасны. Такі цудоўны дзень. Сапраўдны падарунак!

*Алесь Пятровіч, тата, г. Ліда.*







***Таму, хто прагне, Я дам задарма піць з крыніцы вады жыцця.***

Ап 21,6

**Ірына Жарнасек**

# ЖЫВАЯ ВАДА



Янка з татам пайшлі ў лес наламаць галінак бярозы. Заўтра свята – Спасланне Духа Святога...

– А чаму бярозу трэба ставіць у букеты? – Гучна ўголас пытае Янка па дарозе. – Купілі б кветкі...

– Добра, пайшлі купім кветкі, – нечакана згаджаецца тата.

– Не! – не на жарт спалохаўся Янка. – Ты ж абяцаў, што ў лес пойдзем!

Тата смяецца:

– Дык жа не хочаш...

– Хачу! – як мага гучней пераконвае тату Янка.

У Янкі гэткая звычка: пра ўсё пытацца, часта з мамай і татам не згаджацца, але заўсёды прапаноўваць штосьці іншае. Сваё. Але гэта, як аказваецца, не заўсёды карысна бывае – у лес вунь маглі сёння праз Янкаў язык не трапіць.





Буду лепш маўчаць, вырашае Янка, і нават некалькі крокаў ідзе поруч з татам моўчкі. Ды лес ужо зусім побач, і як тут змоўчыш?

– Во гэтую, самую прыгожую забярэм з сабой, – кідаецца Янка да маладзенькай бярозкі.

– Цалкам зрэзаць хочаш? Хіба што лепш некалькі галінак адрэзаць, – прапануе тата, і Янка адразу ж згаджаецца: не, яны не будуць зразаць дрэўцы, няхай сабе растуць.

– Дык чаму заўтра трэба зялёныя галінкі ставіць у букеты? – дапытваецца хлопчык.

– Мабыць таму, што ўвесну дрэвы пасля зімовага сну ажываюць, прыгожа зелянеюць і зноў радуюцца разам з усёй прыродай, бо зноў прыйшла вясна! Бог зноў ажывіў усё, зноў прыбірае нашу зямлю ў зеляніну ды квецень. А галінкі бярозы ў хаце нагадваюць нам пра гэта.

– А як Ён ажыўляе? – спыніўся Янка і агледзеўся. – Жывой вадой? Як у казках?

Яны выйшлі на паляну. Тата галасна засмяяўся, і рэха ад ягонага смеху адбілася ад высозных ялінаў, што стаялі на процілеглым беразе паляны. Янка прыслухаўся і гукнуў:

– О-го-го!...

– ... го-го-го... – адгукнулася рэха.

А тата раптам заспяваў:

*Дай вады жывой, Дух Святы прыйдзі!*

*Распалі агонь, сэрцаў дакраніся...*

*Напаўняй ты нас подыхам сваім,*

*Будзь для нас святлом і надзе-я-я-яй...*

– Я чуў, чуў, – радасна закрычаў Янка, – ты ўчора вучыў гэтую песню пад гітару!

– Усё ты, Янка, чуеш! Усё ты, сынку, ведаеш!

У таты вясёлы настрой. Янка любіць, калі тата з мамай вясёлыя. Яму тады таксама весела і радасна. І ён абавязкова навучыцца спяваць гэтую песню.



Яны адрэзалі некалькі галінак і пайшлі дахаты. Па дарозе тата расказваў, як ён у дзяцінстве гуляў тут, за горадам, з сябрамі – сярод маленькіх бярозак і елак. А цяпер яны вунь якія вымахалі!

– Як добра, што вы іх тады не зрэзалі, – сказаў Янка.

– Добра, – згадзіўся тата цалкам сур'ёзна. – А ведаеш, усё, што мы робім добрае, ад Яго паходзіць. Ад Святога Духа...

– Мы сёння тую бярозку таксама таму не зрэзалі? – запытаў Янка.

– Таксама...

– А тое, што мама сёння хацела адлупцаваць котку Мілку за тое, што яна нашкодзіла, а потым перадумала?

– Таксама.

– І тое, што ты спачатку адзін хацеў ісці ў лес, а потым перадумаў і ўзяў мяне – гэта таксама Святы Дух, – ужо не запытаў, а сцвердзіў Янка.

Тата моўчкі згадзіўся, толькі мацней сціснуў сынаву руку.

А кветкі яны ўсё ж купілі, бо вырашылі, што даўно яны, мужчыны, не дарылі маме кветак. Дык і купілі некалькі чырвоных і белых цюльпанаў. Жанчына, якая іх прадавала, сказала, што белыя цюльпаны бываюць вельмі рэдка, таму яны зрабілі вельмі правільны выбар.

– Гэта Святы Дух... – ціхенька прашаптаў сам сабе Янка.

Адчыняючы дзверы, хлопчык адразу пачуў прыемны пах, што даносіўся з кухні. Мама спякла пірог з вішнёвым варэннем!

– Тут таксама быў Святы Дух! – радасна гукнуў Янка. – Бо ўсё, што добрае, ад Яго паходзіць! Так сказаў тата!

– Але Ён не толькі быў. Ён ёсць! – радасна засмяялася мама, хаваючы твар у цюльпаны.

– Бо Ён вее, дзе хоча... – падняўшы палец угору, падсумаваў тата. – Так сказана ў Святым Пісанні!

*Мастак — Вольга Чарняўская.*





Прыпавесці

# Сонца і Вецер

Аднойчы Вецер і Сонца спрачаліся, хто з іх мацнейшы. Вецер сказаў: «Бачыш вунь унізе старога ў плашчы? Я здзяру з яго гэты плашч хутчэй за цябе!».

І вось Сонца схавалася за хмару, а вецер пачаў дзьмуць гэтак моцна, што ўжо рабіўся падобным да буры. Але з кожным новым парывам ветру стары толькі мацней захутваўся ў плашч.

Нарэшце Вецер здаўся і аціх. Тады Сонца паказалася з-за хмары і ласкава ўсміхнулася старому. Той таксама заўсміхаўся, пачаў выціраць пот ды зняў плашч. І Сонца патлумачыла Ветру, што дабрыня і ласка заўсёды мацнейшыя за гнеў і злосную сілу.

*Малюнак Марыны Петух.*

# Заслужаны дыплом

**Неяк мы пісалі пра Юльянку Барысёнак. Пра тое, як яна прыгожа сябруе са сваёй бабуляй Валянцінай і часта ездзіць разам з ёю на розныя фэсты, рэкалекцыі, цікавыя сустрэчы. Бабуля ганарыцца сваёй унучкай, бо яна паспявае займацца таксама і гімнастыкай.**

**Стойка на галаве — дык стойка! Шпагат — дык шпагат! У любым месцы, у любых абставінах Юльянка здольная паказаць сваё майстэрства.**

**Дзяўчынка часта ўдзельнічае ў самых розных спаборніцтвах. І вось нядаўна яе руплівасць ды настойлівасць былі заслужана ўзнагароджаныя. У чарговых спаборніцтвах па фрыстайле і акрабатыцы Юльянка заняла другое месца і атрымала дыплом. Мы віншуем нашу чытачку Юльянку Барысёнак і жадаем ёй новых поспехаў!**

*І. Студзеньская*





МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

УЧРЕЖДЕНИЕ «СПЕЦИАЛИЗИРОВАННАЯ
ДЕТСКО-ЮНОШЕСКАЯ ШКОЛА
ОЛИМПИЙСКОГО РЕЗЕРВА ПО ФРИСТАЙЛУ
И АКРОБАТИЧЕСКИМ ВИДАМ»

ДИПЛОМ

НАГРАЖДАЕТСЯ

[illegible]

занявшая (ий) 2 место
в чемпионате СДЮШОР
по фри[illegible]айлу
и акробати[illegible]м видам
под девизом «Спорт-здоровье»
по прыжкам на акробатической дорожке
среди девочек
по программе I юношеского разряда

Минск
2016 г.



Антон Лукін

# Зорнае возера





Жылі-былі на свеце кот Васька і сабака Барон. Яны былі сябрамі і штодня бавілі разам час у розных гульнях. Разам ім ніколі не было сумна. А ўвечары гаспадыня клікала Ваську ў хату, ну а Барон, як і кожны сабака, заставаўся ў сваёй будцы. Часта сябры за дзень так нагуляюцца, што ўвечары адразу заснуць. Да наступнай раніцы.

Але вось аднойчы ўлетку гаспадыня пакінула акно ў хаце нанач расчыненым. Васька гэта прыкмеціў і вырашыў даведацца, як там справы ў Барона. Дык скочыў ён на падваконне і пачаў клікаць сябра. Барон адразу пачуў яго і вылез з будкі.

– Не спіцца? – запытаў у яго Васіль і скочыў уніз.

– Ды штосьці не магу заснуць... Ляжу вось, за зоркамі назіраю...

– За якімі яшчэ зоркамі? – здзівіўся Васька.

Васька быў яшчэ маленькім коцікам, таму гаспадыня ніколі яшчэ не выпускала яго ўвечары на двор, і ён не бачыў, не

ўяўляў і ўжо, тым больш, нічога не ведаў пра зоркі. Вось чаму ён здзівіўся, пачуўшы новае слова.

– Ты што, ні разу не бачыў зорак? – здзівіўся ў сваю чаргу Барон.

– Не, – упэўнена адказаў Васька.

– Ды яны ж кожную ноч на небе! – Барон задраў галаву і паглядзеў на неба. Тут ужо і кацяня падняло галаву і... знямела ад здзіўлення. Толькі ягоныя вочы хадзілі туды-сюды, туды-сюды...

– Ну, як?! – запытаў сябра Барон.

Але ўражаны Васька ўсё яшчэ глядзеў на неба і адно здолеў мяўкнуць у адказ:

– Што... гэта?

– Гэта зоркі, – адказаў Барон.

– Як прыгожа-а-а... – ціхенька прашаптала кацяня і зноў пачало разглядваць небасхіл. Барон прамаўчаў і разам з сябрам нейкі час узіраўся на зоркі. Зорак было вельмі шмат.

– Барон, а яны жывыя! – гукнуў Васька і паказаў лапкай на штосьці бліскучае, што рухалася па небе.

– Бачу, – адказаў яму Барон і патлумачыў: – Многія зоркі рухаюцца, а некаторыя нават падаюць!

– Падаюць? На зямлю?!

– Ну так...

І ў гэты самы момант згарэла адна зорка. Сябры ўбачылі гэта і падумалі, што зорка звалілася проста за плотам.

– Ты бачыў? – піскнуў Васька. – Бачыў, Барон, зорка тут во блізка звалілася!

– Бачыў. Пабеглі, пашукаем яе!





І яны кінуліся на пошукі зоркі. Яны ірванулі да весніцаў, абабеглі плот, але зоркі нідзе не было. Васька шукаў у траве, а Барон рынуўся ў кусты, за якімі было невялікае возера.

– Васька, глядзі! – паклікаў Барон сябра і паказаў лапай на возера, у якім таксама было шмат зорак.

Васька падбег і застыў на месцы.

– Вось куды, значыць, падаюць зоркі! – радасна ўсклікнуў ён. – Ды гэта проста... проста нейкае зорнае возера! – мяўкнуў Васька.

Барон падтрымаў сябра:

– Так, а зорак тут гэтаксама шмат, як і на небе.

– Зорнае возера, – захоплена шапнуў Васька.

З таго вечара сябры пачалі часта прыбягаць сюды. Цяпер яны маглі любавацца зоркамі не толькі на небе, але і ў сваім зорным возеры.

*Пераклад з рускай мовы І.Ж.*

*Малюнкі Аліны Мяльковай.*



# Гульні ✿ Загадкі



## ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

Сябры!

Мы разумеем, што лета – пара адпачынку. Але ж, згадзіцеся, не ад нашых загадак! Тым больш што сёння мы прапануем вам загадкі, сугучныя вашаму настрою. Усе вы любіце падарожнічаць. А як і куды вандравалі героі з Бібліі? Паспрабуем прыгадаць.

- У якой кнізе Бібліі распавядаецца пра вялікае падарожжа старажытных габрэяў? Што гэта было за падарожжа?
- З якога горада і ў які вандравалі святы Юзаф з Найсвяцейшай Паннай Марыяй, каб нарадзіць Езуса? Чаму яны гэта рабілі?
- У які горад пілігрымаваў дванаццацігадовы Езус са сваімі бацькамі?
- У якім горадзе адбыўся апошні зямны шлях Езуса?
- Як называлася мясцовасць, куды ішлі двое вучняў і сустрэлі свайго Уваскрослага Настаўніка?
- У які горад ішоў Саўл, які потым стаў Паўлам, калі яго спыніў голас Уваскрослага Езуса? Якія словы сказаў тады Езус?

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

Адказы на **Загадкі, змешчаныя ў № 1 за 2016 г.**

**«Загадкі з Бібліі»:** Лк 18, 15-17; у Евангеллі святога Яна; Езус уехаў у Ерузалем на асле, яго віталі словамі: «Гасанна сыну Давіда!»; Сымон; Марыя Магдалена; Не бойцеся.

**Рэбус:** Любіце адзін аднаго, як Я палюбіў вас.

**Пытанне:** белы і чырвоны промні на абразе Езуса Міласэрнага азначаюць збавенную крыніцу для хрысціянаў: ваду і кроў Езуса Хрыста.

**Гербы Беларусі:** святы Лаўрэн на гербе Ушачаў; Езус на гербе Віцебска, святы Пётр на гербе Барысава, Маці Божая з Езусам на гербе Бялынічаў, святы Казімір на гербе Ружанаў, Арханёл Міхаіл на гербе Навагрудка.



Некаторыя з вас, дарагія чытачы, трохі наракаюць, што нашы заданні лёгкія, але, тым часам, дапускаюць памылкі. Таму на гэты раз пераможцамі сталі толькі дзве нашы чытачкі з Друі — **Вера Тумарэвіч** і **Насця Марцілёнак.**

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## Смяшынкі-Весялінкі

### Няўмелы сабака



У парку, дзе выгульваюць сабак.

— Паглядзіце! Ваш сабака гоніцца за кімсьці на ровары!

— Не можа гэтага быць! Мой сабака не ўмее ездзіць на ровары!

# Крыжаванкі

## ЦІ ВЕДАЕШ ТЫ СВАЮ КРАІНУ?

## СВЯТЫНІ БЕЛАРУСІ
















**Сябры!**
**Вы бачыце тут выявы розных беларускіх святыняў. Напішыце, як яны называюцца, дзе знаходзяцца і што іх усіх аб'ядноўвае.**

5 *Рэбус*



I







# Бусел — птушка свойская

Ну, хто згодзіцца з тым, што бусел — свойская птушка? Хто і калі бачыў яго сярод свойскіх птушак ды жывёл?

Але не спяшайцеся пярэчыць! Бо айцец Часлаў Курэчка з Росіцы, што на Верхнядзвіншчыне, мінулым летам даказаў менавіта гэта: бусел можа быць свойскім! А адбылася тады вось якая гісторыя.



Паехаў айцец Часлаў наведаць сваю парафіянку, бабулю Лёню, у адну з вёсак росіцкай парафіі — у Ворзава. А бабуля і пабедавала яму, што ўчора зваліўся з буслянкі маленькі буслік. А вышы-





ня ж не абы-якая! Дык і скалечыўся, бедачына... Каб не загінуў...

Айцец Часлаў агледзеў малечу, загарнуў гаротніка ў анучку дый забраў ад бабулі. «Паспрабуем палячыць недарэку», — паабяцаў бабулі, а тая толькі ўзмахнула рукамі ад радасці, бо ведала, што ў добрыя рукі трапіла птушанё.

Так буслік Кляк (такое імя даў яму айцец Часлаў) стаў жыхаром Росіцы. Айцец Часлаў паказаў пацыента ветэрынару. Той выпісаў патрэбныя лекі. Нейкі час буслік з яркімі плямамі на спіне ад зялёнкі куляўся ў адведзеным яму катушку. І пакрысе акрэп, набраўся сілаў.

Дый не дзіва: айцец Часлаў карміў свайго выхаванца 4–5 разоў на дзень. Карміў і размаўляў з птушаняткам. А той еў сабе, клекатаў пацiху ды падрастаў. І ў хуткім часе пачаў радасна адгукацца на сваё імя.

Да Кляка часта прыбягалі дзеці, кармілі, гулялі з ім. Дый дарослыя таксама палюбілі вясковага выхаванца. А ён падрастаў сабе ды купаўся ў людской любові. І настолькі ўзмужнеў, што пачаў паціху-памалу і на крыло ўзнімацца. І аднаго разу паклікалі Кляка ягоныя суродзічы, запрасілі да сябе...

Так скончылася гэтая прыгожая гісторыя пра светлае сяброўства параненай птушкі з людзьмі. Яна яшчэ раз паказала, што сапраўдная любоў здольная рабіць цуды!

*Ірэна Задарожная*



*Рубрыку вядзе*
*Марыя Ганчаронак*

*Нашы рукі да працы гатовы*

# Вясёлка

*Кладу вясёлку Маю на воблаку, і будзе яна знакам запавету паміж Мною і паміж зямлёю* (Быц 9, 13).

Мае дарагія! Лета — цудоўная пара, калі мы можам, як ніколі, захапляцца прыгажосцю прыроды. Мяне больш за ўсё захапляе ВЯСЁЛКА. Вясёлка — гэта з'ява, якую можна ўбачыць пасля дажджу або перад ім. Яна выглядае, як дуга, складзеная з розных колераў.

Вясёлка — гэта не толькі вельмі прыгожая прыродная з'ява, але таксама і адзін з сімвалаў Старога Запавету. Гэта — мост паяднання паміж Богам і людзьмі, сімвал міру і згоды.

Прапаную вам, сябры, зрабіць вясёлку сваімі рукамі. Для гэтага нам спатрэбяцца:

- добры настрой;
- кавалачак ваты;
- каляровая папера ўсіх адценняў вясёлкі;
- канцылярскі клей;
- нажніцы;
- стэплер;
- лінейка;
- аловак.





Вы гатовыя? Усё вельмі проста! Спачатку бярэм нашыя рознакаляровыя аркушы, аловак, лінейку і нажніцы. Нам трэба зрабіць 7 палосак рознай даўжыні наступным чынам:

чырвоная (2,5 см х 29 см);
аранжавая (2,5 см х 27,5 см);
жоўтая (2,5 см х 26 см);
зялёная (2,5 см х 24,5 см);
блакітная (2,5 см х 23 см);
сіняя (2,5 см х 21,5 см);
фіялетавая (2,5 см х 19 см).

Складваем іх, пачынаючы ад самай большай, а краі палосак замацоўваем стэплерам. Бярэм некалькі кавалачкаў ваты і робім з іх аблокі, прыляпіўшы на краі вясёлкі клеем. Атрымалася вясёлка!!! Праўда, дзеці, разам з якімі мы рабілі такую вясёлку, настолькі ўзрадаваліся частковым вынікам сваёй працы, што на воблакі ў іх ужо не хапіла часу, бо не цярпелася сфатаграфавацца з вясёлкай. Але мне здаецца , што з воблакамі ўсё ж было б яшчэ прыгажэй.







# Галерэйка




"Цела Хрыста".
Яна Сапега, г. Полацк.




"Святыя Дары".
Вераніка Цецярук,
г. Полацк.



"Наш касцёл".
Яўгенія Асока, г. Полацк.



"Эўхарыстыя".
Наташа Багрэц, г. Полацк.



"Нядзеля. Усёй сям'ёй ідзём у касцёл".
Ганна Васілеўская, 5 гадоў, г. Навапалацк.



"Святыня
ў Полацку".
Арцём Багрэц,
г. Полацк.



"Ягнё".
Алёна Багрэц, 6 гадоў, г. Полацк.



У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).